ГРОДНА
№19 (548),
25 кастрычніка 2020

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Душпастырству “OPEN” 15 гадоў



*Гэтая моладзь вельмі актыўная. Яна дасканала ўсведамляе, што ад яе сёння шмат залежыць у жыцці Касцёла.*

*на старонцы* **4**

## Парафія ў Зарачанцы



*У вёсцы быў адзін з самых вялікіх рэлігійных пратэстаў у СССР.*

*на старонцы* **4**

## Дзякуй Богу, што яшчэ жывы!



*За час служэння святар моцна падарваў здароўе, але сілы пакуль што ёсць.*

*на старонцы* **6**

# МАСТАЦТВА НАДМАГІЛЛЯЎ, АБО ЯК ПЕРАДАЦЬ ПАСЛАННЕ ЕВАНГЕЛЛЯ



**Падчас актавы Усіх Святых будзем часцей наведваць могілкі. Маліцца каля месцаў пахавання блізкіх і, мінаючы надмагіллі невядомых нам спачылых, гаварыць пра сябе “Вечны супакой” у іх інтэнцыі. А што кажуць гэтыя помнікі нам у адказ?**

*на старонцы* **3**



*Цырымонія пахавання цела кс. каноніка Юзафа Ганчыца*

# ДЫЯЦЭЗІЯ РАЗВІТАЛАСЯ З ДВУМА КСЯНДЗАМІ

**Сёлетні кастрычнік стаў апошнім для двух святароў, якія шмат гадоў служылі ў Гродзенскай дыяцэзіі. І хоць яны адышлі па ўзнагароду да Пана, пакінулі пасля сябе маладых паслядоўнікаў, гатовых несці душпастырскую паслугу.**

*на старонцы* **5**

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!



*Месяц лістапад мае ўнікальны, спецыфічны клімат задуменнасці. І варта ў хаосе паўсядзённага жыцця, у яго шалёным тэмпе спыніцца на імгненне і паразважаць пра сваё жыццё і яго мімалётнасць.*

*Трэба памятаць, што на гэтай зямлі мы толькі пілігрымы, якія не ведаюць ні дня, ні гадзіны, калі зыдуць са свету. Гэта вялікая таямніца для ўсіх... Многія людзі, занятыя збіраннем скарбаў на зямлі, забываюцца пра Божыя каштоўнасці, неабходныя для збаўлення. Часам прымнажаюць матэрыяльныя даброты нездаровымі тэмпамі, часта за кошт сваёй сям'і і ўласнага здароўя. І забываюць, што ўсё мінае. А над мімалётнасцю знаходзіцца Хрыстос, які перамог і ўваскрос, які хоча паставіць нас па правую руку.*

*Мы толькі адзін раз праходзім жыццёвы шлях. Ад нашага сёння залежыць наша заўтра. Аднак не трэба забывацца пра хуткаплыннасць часу! Тое, што пасеем на зямлі, будзем жаць пасля смерці – на працягу ўсёй вечнасці. Цяпер самы час, каб паверыць у Хрыста і ўхапіцца за вечнае жыццё. Цяпер самы час выйсці з цемры на святло.*

*Адкрыемся на Божую ласку, на Яго святло і дазволім, каб менавіта Ён вёў нас праз гэтыя восеньскія дні, каб адорваў вартымі думкамі і натхняў дзеля дабра нашага і нашых блізкіх. Дзеля вечнага жыцця!*

*ks. Jerzy Martinowicz*

КАЛЯНДАР

### 26 кастрычніка

***Успамін бл. Цэліны Бажэнцкай.***

*Цэліна спалучыла ў сваёй біяграфіі сямейнае і манаскае жыццё, стаўшы своеасаблівым феноменам у гісторыі Касцёла. Яна была жонкай, маці, бабуляй і манахіняй. Заснавала Кангрэгацыю Сясцёр Уваскрасення Пана Нашага Езуса Хрыста.*

*Рэліквіі блаславёнай знаходзяцца ў 5-ці месцах на тэрыторыі Гродзенскай дыяцэзіі: у касцёлах у Заневічах, Квасоўцы, Свіслачы, Малой Бераставіцы і ў капліцы ў Гудзевічах.*

### 28 кастрычніка

***Свята свсв. апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша.***

*Апостал Сымон меў прозвішча Змагар. З'яўляецца заступнікам фарбавальнікаў, ганчароў, дакакопаў і зваршчыкаў.*

*Юда, якога таксама звалі Тадэвуш, – гэта той апостал, які падчас Апошняй Вячэры спытаў Хрыста, чаму Ён аб'явіўся толькі сваім вучням, а не свету (параўн. Ян 14, 22). З'яўляецца заступнікам бальніц і медыцынскага персаналу.*

### 1 лістапада

***Урачыстасць Усіх Святых.***

*У гэты дзень успамінаем усіх, хто жыў да нас і, выконваючы Божую волю ў сваім жыцці, дасягнуў вечнага шчасця прабывання з Богам у Небе. Касцёл успамінае не толькі афіцыйна прызнаных святых, г. зн. беатыфікаваных і кананізаваных, але і ўсіх памерлых вернікаў, якія ўжо дасягнулі збаўлення і знаходзяцца ў Небе. Ён бачыць у іх сваіх заступнікаў перад Богам і прыклад для пераймання.*

### 2 лістапада

***Успамін усіх памерлых вернікаў.***

*У літургіі гэтага дня Касцёл узгадвае ўсіх веруючых у Хрыста, якія ўжо адышлі з гэтага свету і зараз знаходзяцца ў чысцы (вера ў існаванне чысца – адна з догмаў хрысціянскай веры).*

*За набожнае наведванне могілак з 1 па 8 лістапада і адначасовую малітву за памерлых можна атрымаць поўны адпуст.*

### 4 лістапада

***Успамін св. Караля Барамея, біскупа.***

*Караль Барамей аказаў фундаментальны ўплыў на жыццё і форму Касцёла. Як біскуп ён заўзята рэалізаваў пастановы Трыдэнцкага сабору. Палюбіўшы Хрыстовы Касцёл усім сваім сэрцам, душой і з усіх сваіх сіл, ён заваёўваў для Збаўцы душы, дапамагаў бедным, клапаціўся пра каталіцкую адукацыю і манаскія ордэны. Ён быў князем Касцёла, вёў суровае пакутніцкае жыццё. У 1564 годзе адкрыў вышэйшую духоўную семінарыю (адну з першых у свеце). Яго ўшаноўваюць як апекуна бібліятэкараў, інстытутаў катэхетычных ведаў, пробашчаў і выкладчыкаў семінарыі.*

# СВЯТАСЦЬ – ГЭТА НАРМАЛЬНАСЦЬ

*Кс. Аляксандр Сямінскі*



*"Святая Тройца" – фрэска з касцёла Святога Крыжа ў Парме (Італія)*

Першыя бацькі, Адам і Ева, былі створаны ў стане святасці і справядлівасці. Такой першапачатковай святасцю з'яўляўся "ўдзел у жыцці Божым". Выпраменьванне гэтай ласкі ўмацоўвала ўсе вымярэнні чалавечага жыцця. І пакуль чалавек жыў у блізкасці з Богам, ён не паміраў і не пакутаваў, быў унутрана гарманічны як чалавечая асоба. Гармонія панавала паміж мужчынам і жанчынай, паміж першай парай і ўсім стварэннем. Створаны ў стане святасці, чалавек быў прызначаны да "абагаўлення" Богам (параўн. ККК 375–376, 398).

Аднак, падмануты д'яблам, чалавек хацеў "быць, як Бог" (Быц 3, 5), але "без Бога і вышэй за Бога, а не паводле Бога". Здзяйсняючы першародны грэх, ён паставіў сябе вышэй за Творцу і тым самым пагардзіў Ім; абраў сябе самога замест Пана, насуперак патрабаванням свайго стану як стварэння і адначасова насуперак уласнаму дабру. Святое Пісанне паказвае драматычныя наступствы гэтага першага непаслушэнства. Адам і Ева адразу страцілі ласку першапачатковай святасці, а разам з ёй была знішчана і гармонія, у якой жылі (параўн. ККК 398–400).

**Бог стварыў чалавека святым, але ён праз грэх страціў гэты стан.**

Бог паслаў свайго Адзінароднага Сына, каб праз Яго жыццё, муку, смерць і ўваскрасенне збавіць свой народ ад грахоў (параўн. Мц 1, 21), заключыць з ім новы запавет у крыві Хрыста (параўн. Лк 22, 20) і аднавіць стан святасці, як гэта было ў Яго задуме "перад стварэннем свету, каб мы былі святымі і беззаганнымі перад Ім" (Эф 1, 4). Бог Тройчы Святы, Ён сама святасць, а святасць – сама сутнасць Божай натуры. Таму кожны, хто хоча наблізіцца да Пана, павінен дазволіць Яму асвяціць сябе, бо толькі Ён з'яўляецца крыніцай чалавечай святасці.

"Пан Езус, Боскі Настаўнік і Узор дасканаласці, абвяшчаў сваім вучням любога стану – усім разам і кожнаму паасобку – святасць жыцця, стваральнікам і выканаўцам якой сам з'яўляецца: «Таму будзьце дасканалымі, як дасканалы Айцец ваш Нябесны» (Мц 5, 48). [...] Паслядоўнікі Хрыста, пакліканыя Богам і апраўданыя ў Пану Езусе, не дзякуючы сваім учынкам, а паводле пастановы і ласкі Пана, у хрышчэнні веры сталі сапраўды сынамі Божымі і ўдзельнікамі Яго натуры, а праз гэта сапраўды святымі. Таму павінны захоўваць у жыцці і ў поўнай меры ажыццяўляць святасць, якую атрымалі з Божага дару, [...] каб жылі «як гэта належыць святым» (Эф 5, 3). [...] На дасягненне гэтай дасканаласці вернікі павінны выкарыстоўваць свае сілы, якія атрымалі паводле меры Хрыстовага адорвання" (Канстытуцыя "Lumen gentium", 40).

**Бог вярнуў нам стан святасці праз выратавальную ахвяру свайго Сына, каб кожны мог тут і цяпер удзельнічаць у Божым жыцці, а пасля смерці належаць да супольнасці святых у Небе.**

Трэба памятаць, што пакліканне да святасці – гэта не столькі патрабаванне і катэгарычны абавязак кожнага хрысціяніна, колькі знак бязмежнай любові Айца, які адрадзіў нас у сваім Сыне Езусе Хрысце да святога жыцця. Гэта важны і неаддзельны кампанент новага жыцця, атрыманага разам з хростам, і, такім чынам, галоўны элемент годнасці кожнага верніка (параўн. св. Ян Павел II, "Christifideles Laici", 17).

Праз веру Касцёл прызнаецца няўхільна святым, і ўсе яго члены, незалежна ад стану, пакліканы да святасці ў адпаведнасці са словамі апостала: "Бо воля Божая – гэта вашае асвячэнне" (1 Тэс 4, 3). Касцёл расце, умацоўваецца і развіваецца праз святасць сваіх вернікаў.

"Асвячэнне чалавека ў Хрысце і праслаўленне Бога – мэта ўсіх іншых спраў Касцёла" (Канстытуцыя "Sacrosanctum Concilium", 10). Чалавек асвячаецца ў Касцёле. Уся яго структура цалкам падпарадкавана святасці членаў Хрыста (параўн. ККК 773). "Менавіта ў Касцёле была складзена паўната сродкаў збаўлення". У ім, "дзякуючы Божай ласцы, мы дасягаем святасці" (параўн. ККК 824).

Грэх вядзе да смерці, бо аддзяляе чалавека ад Бога – Крыніцы жыцця. Асоба, адроджаная праз сакрамант хросту, перажывае ўнутраную трансфармацыю і з грэшнай становіцца святой. Гэтая святасць, якую яна атрымала ад Усемагутнага, з'яўляецца незаслужаным дарам, але адначасова і абавязкам. Быць святым азначае наблізіцца да Бога, які тройчы святы (параўн. Іс 6, 3), і дзейнічаць так, каб святасць праяўлялася ў штодзённым выбары.

Святы – гэта той, хто, верачы ў Езуса, жыве ў адпаведнасці з Божым законам і спрабуе супрацоўнічаць са Святым Духам, каб распазнаваць і пазбягаць граху. Святы – гэта той, хто дзякуючы малітве, сакрамантам і ўдзелу ў літургічным жыцці Касцёла пастаянна ўзрастае ў асвячальнай ласцы. Святы – гэта той, хто прымае ў духу падпарадкавання і паслухмянасці Божай волі ўсё, што прадстаўляе жыццё.

Святасць – гэта нармальнасць. Калі я рэалізую пакліканне да святасці, якое было і ёсць намерам Творцы і Збаўцы, то толькі тады дасягаю паўнаты чалавечнасці. Каб быць нармальным. Калі святасць з'яўляецца нармальнасцю, то ўсе мы павінны быць нармальнымі. А нармальны хрысціянін – гэта той, хто жыве паводле Божай волі. Такім чынам, хрысціяне павінны пастаянна, з дня ў дзень, узрастаць у святасці, усё больш прыпадабняцца да Бога Святога ў Тройцы.

# МАСТАЦТВА НАДМАГІЛЛЯЎ, АБО ЯК ПЕРАДАЦЬ ПАСЛАННЕ ЕВАНГЕЛЛЯ

працяг са с. 1

**Ці можна назваць сумнай прафесію чалавека, які займаецца вырабам надмагільных помнікаў? Часлаў Міскевіч, які 20 гадоў жыцця прысвяціў дадзенай справе, упэўнены, што не. Сцвярджае, што гэтае рамяство не пра сыход, а пра пераход. Да таго ж, часта яшчэ і крыніца творчага натхнення.**

*Ангеліна Марцішэўская*

Часлаў Міскевіч здаўна піша вершы пра апошні земны шлях чалавека і жыццё ў вечнасці. У сваю чаргу заказчыкі часам запазычаюць некаторыя радкі, каб размясціць на магільнай пліце блізкай асобы.

"Часта людзі звяртаюцца і да цытат з Біблії або просяць выбіць выяву Хрыста ці Маці Божай", – распавядае мужчына. – Мы *(кампанія «Гранітон» – **заўв. аўт.**)* заўсёды выкарыстоўваем індывідуальны падыход у працы з кліентам. Запрашаем мастака, які прапануе шматлікія варыянты: бо кожны, вядома, хоча ў асаблівы спосаб ушанаваць памяць роднага – «каб не было, як у другіх». Дзякуй Богу, тэхналогіі сёння дазваляюць здзейсніць, здавалася б, неверагоднае: нават калі няма якаснага здымка памерлага, гэта можна паправіць. З апошняга – рабілі на партрэце ўсмешку, якой дагэтуль не было. Бо чалавек жа ідзе па ўзнагароду да Пана!".

Спадар Часлаў працягвае з развянчання міфа пра тое, нібы для ўсталявання помніка трэба чакаць 1-2 гады пасля пахавання, каб "зямля ўляглася". "Сёння матэрыялы дазваляюць ставіць помнік хоць на наступны дзень пасля жалобнай цырымоніі. Ад родных патрабуецца мінімальны догляд – раз на год працерці надмагілле сродкам для мыцця акон", – дадае мужчына.

Спадар Часлаў распавядае, што калі казаць пра Гродна і рэгіён, то тут могілкам уласціва манументальнасць, якая прыйшла з Захаду. "Здараецца, замовяць бюст у натуральную велічыню або станістыя фігуры Анёлаў-ахоўнікаў. Усходу краіны, у сваю чаргу, адпавядае большая сціпласць: вертыкальная стэла, кветнік і агароджа", – адзначае майстар.



Спадар Часлаў Міскевіч, дырэктар ААТ "Гранітон"



Падчас працэсу нанясення выявы на помнік



Хрысціянскія матывы на помніках як сведчанне пра Добрую Навіну

Як асабліва цікавую практыку спадар Часлаў адзначае замаўленне для сябе надмагільных помнікаў загадзя. "Звычайна гэта людзі ва ўзросце ад 60-ці да 80-ці гадоў. Памятаю, адна жанчына папрасіла, каб на помніку намалявалі яе «маладой прыгажуняй». Дык пасля часта да нас у майстэрню завітвала: то пірог прынясе, то каву, з намі пагамоніць, сваім партрэтам палюбуецца. Толькі праз 10 гадоў ужо дзеці прыйшлі помнік забіраць, – узгадвае мужчына. – Быў і другі займальны выпадак. Жанчына замовіла помнік для сябе патаемна ад мужа. А пасля са словамі «зраблю сужэнцу падарунак» аформіла замову і для яго. У выніку надмагіллі праляжалі ў іх у гаражы амаль 15 гадоў. Калі памёр муж той жанчыны, помнік ужо перастаў ёй падабацца. Забралі назад, зрабілі нанова – адзін агульны замест двух асобных".

Нягледзячы на ўсе нюансы працы, спадар Часлаў зўважае, што гэтае рамяство патрабуе вялікай далікатнасці. Трэба кіравацца не смагай нажывы, але ставіцца да кожнага чалавека, асабліва які перажывае страту блізкай асобы, па-хрысціянску: з увагай і спачуваннем. "Калі справу рабіць па-божаму, яна будзе больш складна ладзіцца. Мы нават рэкламу ніколі не даём. Проста якасна і сумленна выконваем сваю працу", – падагульняе майстар.

---



# А. АРКАДЗЬ КУЛЯХА OCD ПРА МАТЭРЫЯЛЬНАЕ І ДУХОЎНАЕ ЎШАНАВАННЕ ПАМЯЦІ ПАМЕРЛЫХ

Могілкі – гэта не месца смутку, а радаснай сустрэчы і надзеі. Крыжы, розныя надмагільныя выявы і надпісы сведчаць аб асноўнай праўдзе хрысціянства: Хрыстос сапраўды ўваскрос! І мы таксама ўваскрэснем!

Часта надмагіллі ўпрыгожваюць рознымі надпісамі, узятымі са Святога Пісання, малітваў, а таксама з літаратуры. Евангелле – гэта Добрая Навіна пра збаўленне, таму некаторыя евангельскія фрагменты могуць выдатна выразіць праўду, пра якую распавядае хрысціянская магіла: веру ў жыццё вечнае.

Звернемся да надмагілляў на старых могілках. Там можна знайсці абразы, рэльефы, барэльефы, а таксама фігуры Хрыста, Маці Божай і святых. Ужо ў антычнасці хрысціяне змяшчалі ў катакомбах – падземных могілках – розныя абразы. Малявалі гісторыю Ноя, Ёны, Майсея, Ахвяру Абрагама, Апошні Суд, Хрыста Валадара, Добрага Пастыра, адлюстроўвалі сакраманты хросту і Эўхарыстыі, а таксама сцэну Уваскрасення.

Бачым, што звычай размяшчаць на могілках выявы Хрыста, Маці Божай і святых моцна ўкараніўся ў хрысціянскай старажытнасці і працягваецца да цяперашняга часу. Гэта найбольш правільна і выражае веру ў Божую міласэрнасць, у вечнае жыццё і еднасць з святых. Неабходна таксама памятаць, што Кодэкс кананічнага права залічвае могілкі, як і касцёлы, капліцы, алтары і санктуарыі, да святых месцаў. З гэтага вынікае, што могілкі таксама з'яўляюцца месцамі малітвы і ўшанавання Бога, таму наяўнасць на іх хрысціянскіх сімвалаў і выяў, у адпаведнасці з воляй памерлага чалавека альбо яго блізкіх, таксама з'яўляецца добрай магчымасцю для евангелізацыі – паведамлення іншым пра Бога.

Мы ведаем, што блізкія паклапоцяцца пра наша пахаванне як мага лепш. Аднак існуюць выпадкі, калі хтосьці адзінокі альбо не падтрымлівае адносіны са сваёй сям'ёй, таму пры жыцці рыхтуе надмагілле для сябе. Інакш справа выглядае, калі хтосьці хоча кантраляваць усё не толькі пры жыцці, але і пасля смерці. Тады гэта было б недаверам да Бога, які ў сваім Провідзе клапоціцца пра ўсіх праз добрых людзей. Таксама магчыма, што ў некаторых выпадках усталяванне помніка пры жыцці можа быць знакам гонару – "Я лепш ведаю, як павінна выглядаць мая магіла". У астатніх выпадках няма нічога дрэннага ў тым, каб замовіць сабе надмагілле.

Будзь то крэмацыя ці традыцыйнае пахаванне, але вельмі важным з'яўляецца пахавальны абрад, бо дазваляе аддаць наша служэнне памерламу, узнесці малітвы Богу ў яго інтэнцыі і выказаць нашу еднасць з ім. Належнае перажыванне смерці і пахавання блізкага чалавека духоўна дапамагае памерлым перайсці ў вечнасць, а таксама прыносіць палёгку жывым у болю і расстанні. У Беларусі пахаванне не абмяжоўваецца толькі цырымоніяй, якую праводзіць святар альбо асоба, упаўнаважаная Касцёлам, але таксама ўключае практыкаванне ў многіх парафіях чуванне пры памерлым, што з'яўляецца прыгожай хрысціянскай традыцыяй.

Калі адзначаць найбольш важны элемент пахавання, то гэта, безумоўна, была б св. Імша за памерлага. У сакраманце Эўхарыстыі мы складваем Богу ахвяру Цела і Крыві Хрыста, каб яе сілай памерлы быў апраўданы і ачышчаны і мог дасягнуць Неба. Пажадана, каб удзельнікі пахавання, асабліва сям'я і сваякі памерлага, не толькі прысутнічалі на св. Імшы, але з верай маліліся і, па магчымасці, прыступілі да св. Камуніі.

Жалоба па памерлых, у залежнасці ад сувязей, што злучаюць з блізкай асобай, якая пакідае гэты свет, можа доўжыцца да года. Гэта добры час, каб маліцца, удзельнічаць у Эўхарыстыі і наведваць магілу блізкай памерлай асобы. Для вернікаў памяць пра памерлых выяўляецца, перш за ўсё, у малітве. Паводле традыцыі, мы збіраемся на св. Імшу за тых, хто адышоў, праз 30 дзён пасля смерці, праз 6 месяцаў, у гадавіну смерці і, вядома, у лістападзе, асабліва ва ўрачыстасць Усіх Святых і Задушны дзень. У многіх парафіях вернікі замаўляюць св. Імшы за нябожчыкаў не толькі ў традыцыйныя дні памяці, але і з нагоды імянін, дзён нараджэння альбо пэўных гадавін.

Культываванне памяці памерлых у хрысціянскім духу фарміруе нашу ўласную ідэнтычнасць, укаранёную ў вечным Богу. Наведваючы могілкі і магілы сваіх блізкіх, а таксама ўдзельнічаючы ў св. Імшах і набажэнствах за памерлых, мы лягчэй знаходзім уласнае месца ў свеце і гісторыі, больш смела бярэмся за задачы сучаснасці і з надзеяй глядзім у будучыню. Памяць аб продках таксама ўмацоўвае сямейныя сувязі і сувязі паміж пакаленнямі. Таму варта ў сямейным коле, а таксама з дзецьмі, глядзець фотаздымкі тых, каго ўжо няма на гэтым свеце, расказваць пра іх жыццё і перадаваць маладому пакаленню хрысціянскія традыцыі. Успамінаючы членаў сям'і, іх лёс, характары і ўчынкі, мы заўсёды даведаемся штосьці важнае пра сябе.

---

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### Святы Пасад пра Нобелеўскую прэмію міру

Уручэнне Нобелеўскай прэміі міру Сусветнай харчовай праграме было высока ацэнена ў Ватыкане.

Пастаянны назіральнік Апостальскай Сталіцы пры Харчовай і сельскагаспадарчай арганізацыі ААН (ФАО) манс. Фернанда Кіка Арэлана заўважыў, што сёлетняя прэмія міру ўказвае на важнасць барацьбы з голадам.

Нобелеўская прэмія міру-2020 уручана Сусветнай харчовай праграме, між іншым, "за вядучую ролю ў спробах прадухіліць выкарыстанне голаду як прылады вайны і канфліктаў".

### У Ватыкане створана "сакрэтная" камісія

Камісія па справах сакрэтнага характару будзе вызначаць у кожным канкрэтным выпадку, якія акты эканамічнага характару павінны стаць сакрэтнымі.

Стварэнне такога органа прадугледжана новымі "Правіламі празрыстасці, кантролю і канкурэнцыі дзяржаўных кантрактаў Святога Пасаду і Дзяржавы Ватыкан", апублікаванымі ў чэрвені мінулага года.

Старшынёй Камісіі папа Францішак прызначыў прэфекта Дыкастэрыі па справах свецкіх, сям'і і жыцця кард. Кэвіна Фарэла.

### Новыя бласлаўлёныя Касцёла

Святы Айцец Францішак упаўнаважыў Кангрэгацыю па справах кананізацыі абнародаваць дэкрэты, якія датычацца беатыфікацыйных працэсаў.

Папа ўхваліў дэкрэт аб засвярджэнні цуда, здзейсненага праз заступніцтва Слугі Божай Гаэтаны Таламэа з Італіі. Таксама дэкрэтам пацверджана мучаніцкая смерць Слуг Божых кс. Франчэска Кастара Соха Лопеса і трох яго паплечнікаў з Іспаніі, забітых з нянавісці да веры.

Дэкрэты, ухваленыя Пантыфікам, пацвярджаюць гераічнасць цнот іспанак Франсіскі Паскуаль Дамэнэк, заснавальніцы Кангрэгацыі Сясцёр Францішканак Беззаганнай, і Марыі Далорэс Сегары Хестоса, заснавальніцы Кангрэгацыі Місіянерак Хрыста Святара.

### Яшчэ адзін дом для прыёму мігрантаў

Манахіні з Кангрэгацыі Служак Божага Провіду перадалі ў распараджэнне Святога Айца свой цэнтр для прыёму пілігрымаў у Рыме (Італія).

Такое рашэнне стала адказам на заклік папы Францішка, які ў энцыкліцы "Fratelli tutti" шматразова нагадвае пра неабходнасць забеспячэння належнага прыёму мігрантам, якія ўцякаюць ад войнаў, пераследу і прыродных катаклізмаў.

Цэнтр адчыніць свае дзверы, у першую чаргу, для самотных жанчын, жанчын з дзецьмі, бедных сем'яў, якія прыбываюць у Італію дзякуючы гуманітарным калідорам.

## Малітоўныя інтэнцыі на лістапад

### паўсюдная

Молімся, каб дасягненні робататэхнікі і штучнага інтэлекту заўсёды служылі чалавеку.

### дыяцэзіяльная

Молімся за старэйшае пакаленне, а таксама за ўсе установы, якія апекуюцца людзьмі пажылога ўзросту.

# ДУШПАСТЫРСТВУ "OPEN" 15 ГАДОЎ



Сям'я душпастырства "OPEN" з кожным годам павялічваецца

працяг са с. 1

**Акадэмічнае душпастырства студэнтаў і старэйшай моладзі "OPEN" у Гродне адзначыла сваё 15-годдзе. З гэтай нагоды ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі) адбыліся ўрачыстасці падзякі за дар супольнасці.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Св. Імшу ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Гамілію прамовіў дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

Сёння да душпастырства належыць шмат людзей. У яго межах дзейнічае некалькі груп. Найбольш папулярная з іх – "Уваскрасенне", дабрачынная суполка, у якой займаюцца дапамогай хворым дзецям, сіротам, бяздомным.

Некаторыя маладыя людзі сустрэлі ў душпастырстве сваіх сужэнцаў і сёння ўжо ўтвараюць сем'і. Па іх ініцыятыве ў межах моладзевай супольнасці паўстала душпастырства маладых сем'яў. Раз на месяц сужэнцы разам з дзецьмі прыходзяць на спецыяльную св. Імшу і катэхезу.

Кс. канонік Антоній Грэмза, які з самага пачатку з'яўляецца душпастырам "OPEN", падсумоўваючы 15 гадоў дзейнасці "Божай справы", з вялікім гонарам падкрэслівае, што за гэты час узнікла сапраўды моцная супольнасць маладых людзей. "Гэтая моладзь вельмі актыўная. Яна дасканала ўсведамляе, што ад яе сёння шмат залежыць у жыцці Касцёла. Найбольш цешыць тое, што моладзі можна даручаць канкрэтныя задачы для выканання", – гаворыць святар.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ВЕНЕСУЭЛА.** Міс Венесуэла-2020, якой стала 24-гадовая студэнтка Марыянхэль Уільясміль, публічна заявіла, што сваёй каронай абавязана Богу і Маці Божай з Чыкінкіры – заступніцы суседняй Калумбіі, а таксама штата Сулія, адкуль яна родам. Кожны год 18 лістапада, у гадавіну цудоўнага аб'яўлення Марыі ў Чыкінкіры, у горадзе праводзіцца свята, якое доўжыцца некалькі дзён. У гэты час туды прыязджаюць вернікі з усёй краіны, каб прыняць удзел у працэсіі ў гонар сваёй заступніцы.

**МАЛІ.** Пасля перамоў мясцовага ўрада з ісламістамі з палону вызвалены а. П'ерлуіджы Макалі – 59-гадовы італьянскі місіянер, які быў выкрадзены 17 верасня 2018 года ў Нігеры, у памежнай вобласці Буркіна-Фасо. Святар з'яўляецца членам Таварыства афрыканскіх місій. У абмен на вязня захопнікі запатрабавалі выпусціць сотню джыхадыстаў.

**ЧЭХІЯ.** У сувязі з пашырэннем пандэміі COVID-19 урад краіны скараціў колькасць удзельнікаў публічных сходаў да ўражальнай колькасці: не больш за 6 чалавек. Гэта тычыцца і прысутнасці на св. Імшах. Многія крытыкуюць хаос у дзеяннях урада. Яшчэ некалькі тыдняў таму ў св. Імшы маглі прыняць удзел да 100 чалавек, затым гэтая колькасць была зменшана да 10-ці, а цяпер да 6-ці чалавек.

**ІСПАНІЯ.** Падчас пандэміі каранавіруса колькасць семінарыстаў у дыяцэзіі Хетафэ каля Мадрыда значна ўзрасла. Мясцовая курыя паведаміла, што ў цяперашні час у дыяцэзіяльнай семінарыі навучаецца 35 семінарыстаў, г. зн. на 40% больш, чым да пачатку акадэмічнага года. Узрост кандыдатаў у святары – ад 18-ці да 35-ці гадоў. Сярод іх як грамадзяне Іспаніі, так і замежнікі.

**УКРАІНА.** У школах Львова і Львоўскай вобласці назіраецца небяспечная тэндэнцыя: вучні малююць на дошках пентаграмы і вымаўляюць формулы загавораў. Маладыя людзі хочуць, каб дзякуючы гэтаму не адбыліся заняткі, каб настаўнік не прыйшоў у клас ці каб іх ніхто не кантраляваў. Як стала вядома, дадзены спосаб уплыву на рэчаіснасць прапануецца ім праз сацыяльны партал Tik Tok. Духавенства заклікае бацькоў звярнуць увагу на тое, што робяць іх дзеці, і просіць паразмаўляць з імі пра духоўную небяспеку сатанінскіх практык. Такія "гульні" нельга расцэньваць як жарт: можна ўвязацца ў адносіны са злым духам.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

## КАТАЛІЦКАЯ ГРОДЗЕНШЧЫНА

# ПАРАФІЯ Ў ЗАРАЧАНЦЫ

працяг са с. 1

*Андрэй Вашкевіч*

Стагоддзе таму на карце Гродзенскай вобласці можна было ўбачыць некалькі месцаў з назвай Баля. Гэта былі Баля Вялікая, цэнтр гміны, маёнткі Баля Сухая і Баля Каўнацкая, вёска Баля Сольная. Але найбольш важным пунктам з такой назвай была парафіяльная вёска Баля, якая ў XIX стагоддзі стала Царкоўнай, а ў першай палове XX – Касцёльнай. У гады барацьбы з рэлігіяй вёска была пазбаўлена сапраўднага імя, атрымаўшы празаічную назву Зарачанка.

Баля была адным з самых старажытных паселішчаў у ваколіцах Гродна. Гэтая назва мае балтыйскае паходжанне і перакладаецца як "балота" або "брудное месца". Першая згадка пра Балю адносіцца да 1480 года, калі вёска адносілася да прыхода праваслаўнай царквы свсв. Барыса і Глеба ў Гродне. У 1526 годзе ў Балі быў заснаваны праваслаўны прыход, пры царкве арганізаваны шпіталь для хворых і састарэлых.

З пачатку XVII стагоддзя парафія ў Балі належала грэка-католікам, і так было на працягу некалькіх стагоддзяў. За 250 гадоў існавання ўніяцкай парафіі драўляная царква некалькі разоў перабудоўвалася. У святыні людзі маліліся на польскай, стараславянскай і простай (беларускай) мовах. Мясцовыя святары галілі бараду і насілі вопратку, падобную на рымска-каталіцкую, але выкарыстоўвалі кнігі для набажэнстваў, надрукаваныя кірыліцай.

У 1875 годзе царскія ўлады арганізавалі "добраахвотнае" далучэнне грэка-католікаў Каралеўства Польскага да праваслаўя. У Балі былі арганізаваны вялікія ўрачыстасці з удзелам чыноўнікаў з Гродна, Варшавы, Сувалкаў і Санкт-Пецярбурга. У простых вернікаў ніхто нічога не пытаўся. Грэка-католікі Балі і іншых навакольных парафій сталі фармальна праваслаўнымі.

Цяжка было жыць тым, хто не жадаў належаць да Праваслаўнай Царквы. Людзі не хацелі хрысціць дзяцей у царкве, адзначаць рэлігійныя святы паводле "новага" календара. Царскія жандармы ўваходзілі ў дом і, калі бачылі, што падчас праваслаўнага посту хтосьці гатуе мяса, выварочвалі каструлі на падлогу. У людзей нават было па 2 імя: афіцыйнае праваслаўнае і сапраўднае каталіцкае. Напрыклад, Барыс і Браніслаў.

Палажэнне змянілася пасля 1905 года, калі цар Мікалай II пад пагрозай рэвалюцыі падпісаў Указ аб верацярпімасці. Шмат людзей пачалі пераходзіць у Рымска-каталіцкі Касцёл, і да 1914 года ў праваслаўнай парафіі Баля засталося ўсяго некалькі дзесяткаў чалавек.

Царква ў Балі згарэла падчас баёў за Гродзенскую крэпасць летам 1915 года і не была адноўлена. У 1927 годзе ў вёсцы была створана рымска-каталіцкая парафія. На месцы спаленай царквы ўзвялі часовы драўляны будынак, у якім адначасова маглі маліцца да 200 чалавек.

На пачатку 1930-ых у Балю прыехаў кс. Антоній Баршчэўскі. Ён не быў першым святаром новай парафіі ў Балі Касцёльнай, але менавіта ён узвёў тут мураваны касцёл. Кс. Баршчэўскі быў "амерыканцам" – даволі доўга жыў у ЗША, збіраючы сродкі сярод амерыканскай Палоніі на будаўніцтва касцёлаў на Радзіме.

Тады большая частка сучаснай Гродзенскай вобласці была ўключана ў склад Віленскай дыяцэзіі, але ваколіцы Сапоцкіна, у тым ліку Баля, адносіліся да Ломжынскай дыяцэзіі. Праекты новых святынь у Ломжынскай дыяцэзіі былі замоўлены ў таленавітага варшаўскага архітэктара Леанарда Мацея Карыё (1900–1942). Прагрэсіўны архітэктар распрацаваў мадэрнісцкі касцёл, вельмі арыгінальны для тых часоў. Але, здаецца, кіраўніцтву касцёла дызайн не вельмі спадабаўся, і яму надалі больш традыцыйны выгляд.

У 1937 годзе касцёл асвяцілі пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. Адначасова быў пабудаваны дакладны двайнік святыні з Балі ў Трычоўцы каля Беластока (Польшча). Кс. Антоній Баршчэўскі вельмі стараўся для сваёй парафіі, але быў вядомы і дзякуючы шматлікім інтарэсам. Ён ездзіў на французскай машыне і вельмі любіў пчол. Меў каля 30-ці вулляў.

Калі пачалася II Сусветная вайна, бальшавікі адабралі ў яго машыну, а немцы выгналі з плябаніі, дзе пасяліліся паліцыянты. Нацысты планавалі застрэліць святара, але яго папярэдзіў іх перакладчык. Кс. Антоній уцёк і схаваўся разам са сваімі парафіянамі.

Праз некалькі гадоў пасля вайны святар быў вымушаны выехаць у Польшчу. Ён жыў у Элку і памёр ва ўзросце амаль 100 гадоў у 1993 годзе. Касцёл у Балі стаяў без пробашча, а ў 1964 годзе вёску перайменавалі ў Зарачанку.

У верасні 1970 года ўлады прынялі рашэнне аб ліквідацыі супольнасці вернікаў у Зарачанцы. Касцёл трэба былоператварыць у склад, а рэчы са святыні перавезці ў Адамавічы. Людзі катэгарычна адмаўляліся перадаць ключы ад касцёла, але замок быў збіты. Кіраўнік калгаса загадаў вываліць на падлогу святыні тону лубіну, які планавалася скарміць жывёле. На наступны дзень жыццё ў Зарачанцы замерла. 15 трактарыстаў, 16 даярак і 4 машыністы не з'явіліся на працу. Гэта быў адзін з самых вялікіх рэлігійных пратэстаў у СССР. Лубін з касцёла вывезлі і да канца 1980-х гадоў святыня стаяла зачыненая.

Сёння касцёл у Зарачанцы, даўняй Балі, радуе вока любога, хто праязджае побач. Прыемна ад думкі, што пасля стольких выпрабаванняў людзі працягваюць там звяртацца да Пана Бога і ўсхваляць Яго.


Касцёл у Балі пабудаваны дзякуючы намаганням кс. Антонія Баршчэўскага, 1930-ыя гады

# АДЫШОЎ У ВЕЧНАСЦЬ ПЕРШЫ ПРОБАШЧ АДРОДЖАНАЙ ПАРАФІІ Ў СМАРГОНІ

працяг са с. 1



**6 кастрычніка адышоў да Пана кс. Генрых Куляшэвіч, салезіянін, імя якога назаўсёды ўпісана ў гісторыю Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. Святар быў чалавекам глыбокай, моцнай веры і заўсёды неадступна трымаўся найвышэйшых хрысціянскіх і нацыянальных вартасцей.**

Кс. Генрых нарадзіўся 29 студзеня 1929 года ў Слабадзе Жаснянскай Мядзельскага раёна. Атмасфера сямейнага дома стварыла ўрадлівую глебу для плёну веры і выспявання святарскага паклікання. У доме Куляшэвічаў панавалі карані набожнасці, узорнай сумленнасці, працавітасці, абавязку і любові да Бога і Касцёла. Пачуўшы заклік Пана "Ідзі за Мной", малады чалавек прыняў цвёрдае рашэнне ісці за Хрыстом – рашэнне, якому на працягу 62-ух гадоў святарства і 71-го года манаскага жыцця з Божай дапамогай застаўся верным да канца свайго жыцця.

У 1990 годзе кс. Генрых прыбыў на місійнае служэнне ў Беларусь. Прыехаў у Смаргонь, дзе стаў першым пробашчам адроджанай парафіі св. Міхала Арханёла, а таксама дэканам дэканата Смаргонь.

9 сакавіка 1990 года ўлады горада перадалі святару дакументы, дзе мясцовы касцёл з музея атэізму зноў стаў месцам Божага культу, дзеля якога і быў пабудаваны. З гэтага моманту святыня, якая праз 63 гады вярнулася каталіцкай супольнасці, зноў заззяла бляскам.

Святар сваёй нязломнай паставай даваў захапляльны прыклад любові і рэалізацыі салезіянскага паклікання. Абапіраючыся на харызму св. Яна Боско, з апостальскім энтузіязмам, любоўю, вялікай адданасцю і радасцю браўся за чарговыя задачы, якія Бог ставіў перад ім. Вельмі любіў святарства. Быў удзячны Богу за яго.

Кс. Генрых больш за ўсё любіў працаваць з міністрантамі. Быў іх бацькам і сапраўдным сябрам. У яго быў свой выпрацаваны гадамі стыль працы з хлопцамі. Прышчапляў ім прынцыпы веры, вучыў маліцца Брэвіярыем, а таксама ўсяму, што павінен умець міністрант, які служыць на св. Імшы. Заўсёды клапаціўся аб тым, каб літургія была прыгожай. Вольны час праводзіў з хлопцамі на стадыёне. Арганізоўваў для іх адпачынак, святы і фармацыйныя сустрэчы.

На працягу ўсяго жыцця кс. Генрых клапаціўся пра святарскія, манаскія і місіянерскія пакліканні. Выхаванцамі кс. Куляшэвіча з'яўляюцца мноства святароў у Польшчы, а таксама, між іншым, кс. бп Аляксандр Яшэўскі, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Іерарх з цеплынёй узгадвае былога пробашча, якому шмат чым абавязаны. "Памятаю, быў дзень, які ў нашай парафіі ахвяравалі Маці Божай Вастрабрамскай. Паспавядаўшыся, я падышоў пацалаваць стулу. Раптам пробашч пытае ў мяне: «Ці не хацеў бы ты быць міністрантам?». І, не дачакаўшыся адказу, гаворыць: «Ідзі ў закрыстыю. Там адзін хлопец ёсць – разам будзеце несці абраз Маці Божай Вастрабрамскай». Адчыняю дзверы і бачу свайго сябра, аднакласніка – сёння кс. Уладзіміра Кабака, таксама салезіяніна. Так мы з ім сталі першымі міністрантамі ў парафіі", – распавядае кс. бп Аляксандр.

Будучы юнаком біскуп заўсёды ўважліва назіраў за працай свайго пробашча і захапляўся: колькі сіл ён аддаваў моладзі! Менавіта гледзячы на яго адчуў пакліканне: гэта тая сям'я, у якой павінен служыць. Праз год паехаў у Польшчу, каб авалодаць мовай. Пасля быў прыняты ў навіцыят да ксяндзоў салезіян. Пробашч кожны дзень маліўся аб умацаванні на абраным шляху для пакліканых з парафіі. "У тым, што я сёння выконваю біскупскае служэнне ў Беларусі, вялікая заслуга кс. Генрыха. Сваю ўдзячнасць, любоў і павагу да яго хацеў бы выказаць праз грыгарыянскую св. Імшу, ахвяраваную мной за светлай памяці кс. Куляшэвіча", – зазначае іерарх.

**Кс. Генрых Куляшэвіч SDB быў пробашчам у Смаргоні і дэканам дэканата Смаргонь у 1990–2001 гадах. Пахаваны ў Сувалках (Польшча).**

# АДЫШОЎ У ВЕЧНАСЦЬ БУДАЎНІК СВЯТЫНІ І АРХІТЭКТАР ЛЮДСКІХ СЭРЦАЎ

**13 кастрычніка адышоў да Пана кс. канонік Юзаф Ганчыц, пробашч парафіі Святой Сям'і ў Лідзе. Святар адзначаўся надзвычайнай руплівасцю ў служэнні, а таксама чуласцю і спагадлівасцю да людзей.**



Кс. Юзаф нарадзіўся 3 ліпеня 1960 года. Паходзіць з парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне. Святарскае пасвячэнне атрымаў 17 чэрвеня 1995 года з рук біскупа Аляксандра Кашкевіча ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне. Быў, разам з сённяшнім дапаможным біскупам Гродзенскай дыяцэзіі Юзафам Станеўскім, адным з першых выпускнікоў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.

Пасля пасвячэння прызначаны вікарыем парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах. З 10 ліпеня 1996 года да самай смерці выконваў абавязкі пробашча парафіі Святой Сям'і ў Лідзе. Дзякуючы яго намаганням у новым мікраараёне горада паўстала велічная святыня.

За час служэння ў лідскай парафіі душпастыр паклапаціўся аб утварэнні мноства малітоўных груп. Шмат увагі і часу прысвячаў выхаванню дзяцей і моладзі, фармацыі сем'яў. Па сённяшні дзень пры парафіі дзейнічае каталіцкая харызматычна-евангелізацыйная супольнасць "Gloriosa Trinita", духоўным праваднікам якой ён з'яўляўся.

У 2003 годзе кс. Юзаф скончыў навучанне на спецыялізацыі "тэалогія сужэнства" ва Універсітэце кардынала Стэфана Вышынскага, а ў 2007 годзе – паслядыпломны катэхетычна-пастаральны курс у Люблінскім каталіцкім універсітэце ў Польшчы. Сёлета святар адзначыў сваё 60-годдзе і 25-годдзе прыняцця прэзбітэрскага пасвячэння.

Кс. Юзаф пакінуў глыбокі след у сэрцах людзей, якія падкрэсліваюць, што для іх ён быў бацькам, братам, сябрам, духоўным кіраўніком, спаведнікам... Асабліва застанецца ў памяці клерыкаў, сваіх выхаванцаў.

Семінарыст Валянцін Міхайлін падкрэслівае, што пробашч быў цудоўным і адкрытым святаром: "Ён шмат клапаціўся аб духоўным развіцці парафіян. Заўсёды знаходзіў патрэбныя для людзей словы... Я веру, што зараз ён будзе дапамагаць нам з дому Айца".

Кл. Андрэй Юхнік памятае свайго пробашча яшчэ з дзяцінства. Гаворыць, што быў для яго як родны чалавек. "У гэты сумны час прыходзяць на памяць толькі пазітыўныя моманты. Я ўспамінаю ранішнія размовы за кавай, яго настаўленні і парады. Для мяне, як, думаю, і для ўсёй парафіі, ён зрабіў шмат добрага. Жадаў дабра кожнаму чалавеку", – дзеліцца кл. Андрэй і з упэўненасцю дадае, што кс. Юзаф быў сапраўдным пастырам.

Клерыкі ўспамінаюць свайго душпастыра як чалавека з бясконцым аптымізмам і рознабаковымі зацікаўленасцямі, з якім можна было пагаварыць на любую тэму. "Кс. Юзаф добра ведаў гісторыю, любіў паэзію, любіў спяваць", – узгадвае кл. Яўген Абрамаў. Семінарыст падкрэслівае, што пробашч заўсёды быў гатовы выслухаць, падтрымаць, даць мудрую параду, а часам, калі патрэбна, і справядлівую заўвагу.

Не дзіўна, што ў дзень пахавання развітацца з пробашчам прыбыло шмат людзей. Некаторыя прыехалі здалёк з падзякай Богу за яго святарскія рукі і сэрца, за ўсё дабро, якое ад яго атрымалі.

На заканчэнне пахавальнай літургіі, згодна з традыцыяй, якую захоўваў у дзень сваіх імянін кс. Юзаф, а на гэты раз – у дзень яго нараджэння для Неба, усе атрымалі цукеркі, якімі частавалі міністранты парафіі.

Лідская парафія пасля страты свайго руплівага пробашча з'ядналася ў супольнай малітве ў інтэнцыі спачылага. Вернікі нястомна ўзносяць да Бога падзяку за прыклад жыцця і служэння святара вялікага духоўнага фармату, будаўніка прыгожай святыні, але ў першую чаргу, архітэктара чалавечых сэрцаў.

**Кс. канонік Юзаф Ганчыц пахаваны ля лідскага касцёла Святой Сям'і – той святыні, якую з руплівасцю ўзводзіў для Пана, каб вернікі мелі свой малітоўны дом.**

*Артыкулы падрыхтаваў кс. Юрый Марціновіч*

# ЗАДУШКІ: ПЛАКАЦЬ ПА САБЕ

**Калісьці наша катэхетка хацела зрабіць на ўспамін усіх памерлых вернікаў такую інсталяцыю: паставіць у касцёле помнік, а замест здымка прымацаваць на ім люстэрка, каб кожны мог убачыць сябе ў такім антуражы. Ідэю дэкарацыі ўсё ж не ажыццявілі, але вобраз у маёй галаве застаўся. Задушны дзень – гэта не толькі пра мінулае, але хутчэй пра сучаснасць і нават будучыню.**

*Арцём Ткачук*

### СМЕРЦЬ – ГЭТА ЧАСТКА ЖЫЦЦЯ

Да сёння ў афрыканскіх краінах захаваўся звычай пахавання памерлых ля жылых дамоў, проста на падворку. Надмагіллі там паўсюль. На іх нярэдка сушаць вопратку ці кладуць нейкія гаспадарчыя рэчы. Пры гэтым кошт помніка можа быць не меншы за кошт драўлянай хаткі, ля якой ён стаіць.

Наша еўрапейская цывілізацыя стараецца замоўчваць тэму смерці. Пра яе мала гаварыць – нязручная. Магілкі размяшчаюцца за гарадамі ці высокімі агароджамі. Вядома, што яшчэ некалькі дзесяткаў гадоў таму было інакш... Ды цяжка сказаць, які падыход лепшы. Аднак факт застаецца фактам – "гады нашы мінаюць, быццам уздых" (Пс 90 (89), 9). Уцёкі ж ад гэтай рэчаіснасці застаюцца ўсяго толькі ўцёкамі ад рэчаіснасці.

### ПАМІРАЦЬ ШТОДЗЁННА

Супрацьлегласць веры і боязі смерці заўсёды здзіўляе. Лагічна, што гэта несумяшчальныя паняцці, але ж абсалютная большасць хрысціян верыць у Бога і баяцца памерці. Псіхолагі гавораць, што гэта нармальнае захаванне чалавечай псіхікі. Якое ж стаўленне правільнае?

У адным з казанняў вядомы рэкалекцыяніст светлай памяці кс. Пётр Паўлюкевіч падкрэсліў, што хрысціянін павінен штодзённа паміраць: дзеля дабра іншага, для граху і зла, дзеля ўтаймавання свайго эгаізму. "Тады ты проста паміраеш для гэтага свету і ўжо нібы ў Небе", – прыкладна так казаў ён. З такой перспектывы мазаіка складваецца. Штодзённае паміранне – гэта пастаянны стан хрысціяніна. Ты не думаеш, як захаваць сябе сабе, але як аддаць сябе бліжняму.




### ЗАДУШКІ ЯК ЧАС ЗБІРАННЯ НАНОВА

Літургічны каляндар Касцёла невераготны. На працягу года ён падштурхоўвае да аналізу і перагляду розных праўд веры. Падчас трыдцыцыйных Задушак вернікі не толькі моляцца за блізкіх памерлых, але і няволь-на задумваюцца над сваім існаваннем: адкуль і куды мы ідзём, які сэнс ды як жыць правільна.

Задушкі – гэта час яднання гісторыі і сучаснасці, час вяртання да першакрыніцы – у Бога няма паняцця часу. Ён быў, ёсць і будзе. А чалавечае жыццё – гэта папяровы карабельчык у акіяне Існавання. Глядзіш на карабельчыкі, якія плылі да цябе, думаеш пра тых, якія застануцца пасля, і маўкліва пазіраеш на свой.

"Не плачце па Мне, а плачце па сабе і па дзецях вашых" (Лк 23, 28). Нягледзячы на веру, сакраманты, супольнасць, мы, вернікі, часта плачам не па тым. Як бы ні намагаўся чалавек, цяжка ўсвядоміць, што карабельчык яго плыве па акіяне Любові. А таму Задушкі падштурхоўваюць плакаць па сабе і яшчэ больш жыць Богам. "Каб людзі бачылі нашы ўчынкі і хвалілі Айца".

# ДЗЯКУЙ БОГУ, ШТО ЯШЧЭ ЖЫВЫ!

працяг са с. 1

**Кс. Сяргей Гоман – святар салезіянін з Гродзеншчыны, які ўжо больш за 19 гадоў нясе місіянерскую паслугу на афрыканскім кантыненце. На дадзены момант ксёндз знаходзіцца ў Сьера-Леонэ, дзе ў асноўным працуе з дзецьмі і падлеткамі, а таксама аказвае дапамогу ўсім, хто апынуўся ў складанай жыццёвай сітуацыі. У яго паўсядзённасці няма сафары, сустрэч з экзатычнымі жывёламі, маляўнічых плямёнаў, затое прысутнічаюць адкрытыя людзі, ад якіх можна навучыцца ўменню шчыра радавацца таму, што маеш, і дзякаваць Госпаду за кожны пражыты дзень.**

*Кінга Красіцкая*



*Кс. Сяргей разам з мясцовым біскупам Чарльзам Камбо*

Узгадваючы пачатак святарскага і місіянерскага шляху, кс. Сяргей вяртаецца ў думках на сваю малую радзіму – у Дзятлава, дзе скончыў школу, прафесійна-тэхнічнае вучылішча, адчуў святарскае пакліканне. А пасля распачаў навіцыят у Маскве.

"Калі я быў на практыцы, Генеральны настаяцель ордэна напісаў ліст да ўсіх інспекторый салезіянскага свету, у якім гаварылася аб тым, што ў юбілейным 2000 годзе трэба накіраваць па адным прадстаўніку на місіі, – распавядае святар. – Я задумаўся, ці не адгукнуцца на гэтую просьбу. Доўга разважаў, маліўся ў капліцы і ў выніку прыняў станоўчае рашэнне. Я ведаў, што гэта будзе вялікае выпрабаванне, але напісаў заяву. У сваім лісце адзначыў, што паеду ў любую краіну свету, толькі прашу не высылаць мяне туды, дзе гарачы клімат".

У той год 65 чалавек выказалі сваё жаданне паехаць на місіі. Кс. Сяргея спачатку адправілі ў Ірландыю, дзе трэба было вывучаць англійскую мову. Затым на місіянерскія курсы ў Італію, пасля якіх уручылі місіянерскі крыж і накіравалі ў заходнюю Афрыку, а менавіта ў Гану, дзе... вельмі спякотна і вільготна.

"У той момант, калі даведаўся, дзе давядзецца несці сваё служэнне, мяне перапаўнялі вельмі розныя эмоцыі: і радасць, і здзіўленне, і сум з-за таго, што накіраваны ў гарачую краіну, а не ў Манголію ці Азербайджан. Але не было варыянтаў – мусіў з пакорай прыняць гэтае рашэнне, паколькі генеральны настаяцель ведае патрэбы і сам пастанаўляе, хто і куды павінен ехаць, – узгадвае місіянер. – У Гану я прыбыў у 2011 годзе і прабыў там 2 гады. Затым давялося працаваць у Эфіопіі, Кеніі, Угандзе, Танзаніі і, нарэшце, у Сьера-Леонэ".

Кс. Сяргей распавядае, што першае знаёмства з Афрыкай яго шакіравала. І такая рэакцыя, у прынцыпе, нармальная: большасць людзей, якія трапляюць на гэты кантынент, перажываюць падобныя эмоцыі.

"Афрыканская культура вельмі моцна адрозніваецца ад еўрапейскай. Спачатку здзіўляе абсалютна ўсё: як людзі моляцца, як ядуць, якія ў іх узаемаадносіны, як паводзяць сябе ў грамадстве, – узгадвае місіянер. – Але паступова прызвычайваешся, адаптуешся да мясцовых нораваў. Таксама прымаеш мясцовую рэлігійную культуру, яе спецыфіку, калі, напрыклад, людзі размаўляюць з Богам выкарыстоўваючы гучную музыку, розныя музычныя інструменты, танцуюць, пляскаюць у ладкі. Для іх святыня з'яўляецца не толькі духоўным месцам, але і своеасаблівым сацыяльным цэнтрам, дзе можна цікава правесці час пасля набажэнства. Людзі прыходзяць на св. Імшу з цудоўным настроем і ў такіх прыгожых строях, што дзіву даешся, як такая вопратка магла з'явіцца ў той беднасці і нястачы, у якой яны жывуць".

Святар падкрэслівае, што мясцовыя людзі вельмі адкрытыя для ўспрымання Евангелля. І гэта нягледзячы на тое, што 60% насельніцтва – мусульмане, 10% – прадстаўнікі этнічных веравызнанняў, а 30% – хрысціяне.

"Афрыканцы вельмі любяць і шануюць Бога, усяцэла Яму давяраюць. Калі сустракаеш чалавека на вуліцы і пытаешся, як справы, найчасцей пачуеш у адказ: «Дзякуй Богу, што яшчэ жывы!». Пагадзіцеся, гэта вельмі трапны выраз з глыбокім сэнсам, – гаворыць кс. Сяргей. – Канешне, хапае і нястачы ў сваёй веры людзей. Аб гэтым можа сведчыць той факт, што кожны год да сакраманту хросту прыступае прыкладна 40-50 чалавек, але лічба тых, хто наведвае святыню, не павялічваецца прапарцыянальна. Тым не менш, хрысціянская супольнасць развіваецца. Таксама ёсць шмат пакліканняў сярод мясцовых вернікаў".

Распавядаючы пра ўмовы жыцця на місіях, кс. Сяргей жартуе, што яны тут крыху іншыя, чым у Беларусі. Яму не раз давялося хварэць на малярыю. Святар вельмі пакутаваў, калі ўпершыню сутыкнуўся з гэтай хваробай. Таксама нямала страху прынесла з сабой успышка Эболы.

"Акурат у той момант я працаваў у цэнтры, дзе знаходзілі прытулак дзеці, родныя якіх памерлі ад гэтага страшнага віруса, – узгадвае місіянер. – Асірацэлыя хлопчыкі і дзяўчынкі спачатку праходзілі каранцін у дзяржаўнай установе, а пасля іх накіроўвалі да нас, дзе мы стараліся псіхалагічна дапамагчы. Аднойчы я прывёз у цэнтр хлопчыка і дзяўчынку, а праз некаторы час мне патэлефанавалі з дзяржаўнай службы і паведамілі, што адбылася памылка: дзеці не прайшлі каранцін і павінны вярнуцца назад. Я іх адвёз, а пазней даведаўся, што яны былі інфіцыраваныя і памерлі. Вядома, крыху перажываў, паколькі цесна з імі кантактаваў, нават піў ваду з адной бутэлькі. Але ведаў, што кожны з нас у руках Божых. Я тады не захварэў і далей працягваў сваю працу. Таксама зазначу, што падчас той эпідэміі, калі выміралі цэлымі сем'ямі, у нашым салезіянскім цэнтры не было ніводнай смяротнай ахвяры".



*Падчас св. Імшы ў капліцы ў вёсцы Нэгую*

Святар гаворыць, што напрыканцы кожнага года падчас рэкалекцый стараецца падводзіць вынікі сваёй працы. Узгадвае ўсе перыпетыі і складанасці, з якімі давялося справіцца, а таксама радуецца поспехам людзей, якія знаходзяцца пад яго душпастырскай апекай.

"З упэўненасцю магу сказаць, што за 19 гадоў місіянерства я вельмі моцна паглыбіў сваю веру, шмат чаму навучыўся ў людзей, з якімі давялося працаваць. Св. Ян Боско казаў: «Вам будзе забяспечаны хлеб, праца і Неба». Сапраўды, так і ёсць у нашым салезіянскага свеце. Вось ужо колькі гадоў стараюся ажыццяўляць шматлікія задумкі і добрыя справы на карысць бліжніх. Заўсёды дзейнічаю згодна з Божым планам, паколькі ўпэўнены, што калі наканавана, то ўсё ажыццявіцца найлепшым чынам. Вядома, за гэты час моцна падарваў здароўе, але сілы пакуль ёсць, таму буду надалей прапаведаваць Хрыста і працаваць на карысць мясцовай хрысціянскай супольнасці", – падсумоўвае кс. Сяргей.

**Кс. Сяргей Гоман разам з іншымі салезіянамі ў цяперашні час працуе ў Фрытаўне – сталіцы Сьера-Леонэ з дзецьмі і моладдзю па 7-мі праграмах.**

**Першая праграма – "Дзеці вуліц"** – накіравана на працу з дзецьмі, якія збеглі з-за хатняга гвалту ці ў пошуках лепшага жыцця накіраваліся з вёскі ў горад. З імі працуюць урачы, псіхолагі, педагогі. Задача спецыялістаў – дапамагчы дзецям вярнуцца ў сям'ю, у грамадства, даць магчымасць атрымаць адукацыю.

**Другая праграма – "Сацыялізацыя маладых прастытутак (12–16 гадоў)".** Яна разлічана на тых, хто хацеў бы сысці з вуліцы і пачаць новае жыццё. У рамках праграмы аказваецца медыцынская і псіхалагічная дапамога. Тым, хто жадае, садзейнічаюць у атрыманні адукацыі і прафесіі, напрыклад, цырульніка, пекара, электрыка.

**Трэцяя праграма – дапамога ахвярам гвалту і ранняга замужжа, а таксама дзецям з вёсак, якіх забіраюць у горад іх далёкія сваякі нібыта дзеля таго, каб маглі вучыцца ў школе, а на самой справе прымушаюць іх да вельмі цяжкай працы.** Дзецям аказваецца медыцынская і псіхалагічная дапамога. Праводзіцца рэабілітацыя, трываюць пошукі сваякоў маладых людзей, якія гатовы іх прыняць. Пры гэтым робіцца ўсё магчымае, каб вінаватыя панеслі заслужанае пакаранне.

**Чацвёртая праграма – "гарачая" тэлефонная лінія "323 Free Line" і псіхалагічная дапамога па тэлефоне "Don Bosco line".** Тэлефоны працуюць кругласутачна, нават у выхадныя і святочныя дні.

**Пятая праграма – мабільная дапамога бяздомным.** Гэта аўтобус, які курсіруе па вуліцах 5 дзён на тыдзень. Спецыялісты аказваюць патрабуючым медыцынскую і псіхалагічную дапамогу, раздаюць ежу і медыкаменты, прадметы першай неабходнасці і вопратку.

**Шостая праграма – дапамога зняволеным.** Гэта праца з тымі, хто знаходзіцца ў месцах пазбаўлення волі. Валанцёры выбіраюць самых слабых, кормяць іх, вучаць чытаць і пісаць. Для найбольш "прасунутых" ёсць праграма камп'ютэрнага навучання.

**Сёмая праграма – грамадскі дом "Апошні шанс".** Яна адрасавана для тых, хто быў удзельнікам праграмы "Дзеці вуліц", але па нейкіх прычынах зноў вярнуўся да ранейшага ладу жыцця. Гэта яшчэ адзін шанс наладзіць сваё жыццё.

АКТУАЛЬНА

## Новая хваля каранавіруснай інфекцыі. Біскупы выдалі рэкамендацыі

*Catholic.by*

***У сувязі з распаўсюджаннем пандэміі COVID-19 у кантэксце восеньска-зімовага перыяду, калі лічба захворванняў можа павялічвацца, Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі выдала спецыяльныя рэкамендацыі. У іх акрэслены правілы для вернікаў у справе выканання рэлігійных практык.***

*У дакуменце епіскапата Беларусі сцвярджаецца, што кожны біскуп, калі гэта неабходна ў пэўным рэгіёне, выдае дыспенсу ад абавязку ўдзелу ў св. Імшы ў нядзелі і ўрачыстасці. Яна датычыць вернікаў старэйшага ўзросту, якія асабліва чынам падатлівыя на інфекцыю каранавіруса, асобам з сімптомамі хваробы, дзецям і школьнай моладзі, а таксама асобам, якія імі апекуюцца, і тым, хто адчувае боязь перад небяспекай заражэння. Між іншым, у Гродзенскай дыяцэзіі ўжо дзейнічае гэтая дыспенса.*

*Вернікі, якія карыстаюцца дыспенсай, заахвочваюцца да ўдзелу ў св. Імшы ў суботу ўвечары або ў іншыя дні. Ім варта памятаць пра духоўную Камунію і практыкаваць яе.*

*Тым вернікам, якім стан здароўя (і іншыя прычыны) дазваляюць удзельнічаць у св. Імшах, рэкамендуецца прытрымлівацца ў касцёле асноўных правіл гігіены: надзяваць ахоўныя маскі або шчыткі, захоўваць сацыяльную дыстанцыю і рэспіраторны этыкет.*

*Душпастыры павінны заставацца на месцы свайго служэння і быць даступнымі для людзей, асабліва хворых і паміраючых.*

*Евангелізацыйныя і катэхетычныя сустрэчы, а таксама іншыя мерапрыемствы з пункту гледжання мэтазгоднасці іх правядзення падчас пандэміі варта адмяніць або перанесці на пазнейшы час.*

## Назначэнні дэканаў у дыяцэзіі

*Grodnensis.by*

***Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч зацвердзіў выбар дэканаў на чарговы 5-гадовы тэрмін.***

*Сёння тэрытарыяльная акруга Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне налічвае 16 дэканатаў. У Навагрудскім і Дзятлаўскім дэканатах служыць 1 дэкан. Згодна з выбарам святароў, у большасці дэканатаў застаюцца дэканы, якія былі раней. У 4-ох дэканатах выбраны і зацверджаны новыя.*

*Дэканат Ваўкавыск – кс. канонік Чэслаў Паўлюкевіч, пробашч парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Росі.*

*Дэканат Вялікая Бераставіца – кс. Руслан Мазан, пробашч парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Яна Непамука ў Вялікіх Эйсмантах.*

*Дэканат Смаргонь – кс. Павел Калеснік, пробашч парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Жодзішках.*

*Дэканат Слонім – кс. Аляксандр Рудзевіч, пробашч парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дзярэчыне.*

*У бліжэйшы час дэканы атрымаюць дэкрэты і прынясуць прысягу на вернае служэнне на абранай пасадзе. У сваёй дзейнасці яны будуць кіравацца нормамі Кодэксу кананічнага права і Статутам ксяндзоў дэканаў дыяцэзіі.*

# САКРЭТ ВЫСЛУХАНАЙ МАЛІТВЫ

**"І ўпакорыцца народ Мой, які называецца імем Маім, і будуць маліцца, і шукаць аблічча Майго, і адвернуцца ад благіх шляхоў сваіх, дык Я пачую з неба, і дарую грахі іхнія, і ацалю зямлю іхнюю" (2 Кр 7, 14).**

*Людвіга Цыдзік*

У прыведзеных словах сам Бог дае канкрэтныя ўказанні і ставіць умовы, якія неабходна выканаць, каб малітва магла быць пачутая: упакорыцца, маліцца, шукаць Яго аблічча і адвярнуцца ад благіх шляхоў.

Не раз у гісторыі Бібліі мы бачым, што Нябесны Айцец вельмі шануе цноту пакоры і дае адказ на малітву разам з асаблівымі ласкамі тым, хто можа пакаяцца перад Панам. Напрыклад, прарок Даніэль маліў Бога і прасіў прабачэння за грахі свайго народа, прымаючы на сябе рэзультаты і наступствы правін, якіх нават не здзяйсняў. Прарок выдатна разумеў, што не зграшыў, як браты, не таму, што быў лепшы ці больш дасканалы, а таму, што Пан сваёй ласкай абараняў яго ад падзення.

Молячыся, святы Даніэль не абвінавачваў нікога ў здзейсненых грахах і не ўзвышаўся з-за сваёй бязгрэшнасці. не піў віна (параўн. Дан 10, 3). У такім стане заставаўся больш за 3 тыдні, пакуль на 24-ты дзень не атрымаў адказ на свае малітвы: убачыў анёла Габрыэля – пасланніка Усявышняга. "Не бойся, Даніэль; з першага дня, як ты прыхіліў сваё сэрца, каб дасягнуць разумення і ўпакорыцца перад Богам тваім, словы твае пачуты, і я прыйшоў дзеля слоў тваіх!" (Дан 10, 12).

З гэтай гісторыі мы робім выснову, што свабоднае і добраахвотнае прыніжэнне перад Валадаром Нябёс падабаецца Яму, кранае Яго сэрца і схіляе Яго вуха да выслухоўвання нашых просьбаў. Бог пасылае таму, хто просіць, свайго анёла, які прыносіць адказ на заклік і абараняе ад нападаў д'ябла.

Напэўна, у розных жыццёвых сітуацыях мы асабіста дасведчылі, наколькі агідным можа быць самаўпэўнены чалавек, які ўзвышае сябе

## Малітва "Ойча наш" з'яўляецца ўзорам правільнай формы адносін з Богам.

Наадварот, ён браў на сябе поўную адказнасць, каяўся і прыніжаў сябе перад Богам праз пост. Адмаўляў сабе ў смачных стравах і мясе, над іншымі, падкрэслівае ўласную значнасць і прыпісвае сабе вялікія заслугі. Невыпадкова народная мудрасць сфарміравала выслоўе "пыха ў пекла спіхвае", бо пры такіх ганарыстых паводзінах можна заўважыць нават дэманічнае ўздзеянне.



*Малітва Даніэля, Эдвард Пойнтэр, 1865 г.*

Калі мы, людзі, адчувальныя да праяўленняў самаўпэўненасці і маніі велічы бліжніх, то можна ўявіць, наколькі больш чалавечая фанабэрыя раніць чуйнае сэрца Бога. Св. Якуб пацвярджае гэта ў Святым Пісанні: "Бог супраціўляецца ганарыстым, а пакорным дае ласку. Таму пакарыцеся Богу, а супраціўляйцеся д'яблу, і ён уцячэ ад вас. Набліжцеся да Бога – і Ён наблізіцца да вас. Ачысціце рукі, грэшнікі, і асвяціце сэрцы, крывадушнікі. Смуткуйце, плачце і галасіце. Няхай смех ваш абернецца ў плач, а радасць – у сум. Прынізьцеся перад Панам – і Ён узвысіць вас" (Як 4, 6–10).

Такім чынам, становячыся на малітву, трэба браць прыклад з прарока Даніэля. Апрануцца ў адзенне пакоры і пакаяння, якое змякчае сэрца і рыхтуе яго да прыняцця Божай волі. Прызнаць сваю мізэрнасць, бездапаможнасць і абмежаванасць перад бясконцай веліччу і моцай Бога.

Як слабыя істоты мы не годныя набліжацца да Творцы і прасіць чаго-небудзь, абапіраючыся на ўласныя заслугі.

## Суд належыць не людзям, а Богу.

Усё, што маем – прыгажосць, таленты, здольнасці, дасягненні і поспехі – паходзіць ад Нябеснага Айца і з'яўляецца асаблівай ласкай, дадзенай нам для Яго хвалы. Аднак яна можа быць забрана з-за нашага гонару альбо непаслушэнства. Па гэтай прычыне нельга ўзвышацца, абвінавачваць іншых ці не прабачаць бліжняму, што таксама з'яўляецца праяўленнем пыхі.

Калі мы просім аб нечым у Бога, а ў сваім сэрцы абвінавачваем кагосьці, то непазбежна сцягваем на сябе суд Найвышэйшага і рызыкуем апынуцца ў падобнай сітуацыі. Нават калі бліжні вінаваты перад намі, варта аддаць гэта Богу і пакорна даравать, разумеючы, што чалавек не меў ласкі пазнання Езуса. У малітве "Ойча наш" мы просім Бога: "Прабач нам грахі нашыя", – абавязваючыся ўмовай: "як і мы прабачаем вінаватым нашым". Толькі выконваючы гэтае патрабаванне, можам быць упэўнены, што наша малітва будзе выслухана.

*Працяг будзе.*

РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

КОЖНУЮ НЯДЗЕЛЮ Ў 8.00 НА ПЕРШЫМ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ КАНАЛЕ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ Ў ГРОДНЕ НА 96,9 FM, У СВІСЛАЧЫ НА 100.8 FM.

*Кс. Юрый Марціновіч*

***25 кастрычніка – XXX Звычайная нядзеля***
***Мц 22, 34–40***

Калі фарысеі пачулі, што Езус прымусіў замоўкнуць садукееў, сабраліся разам. І адзін з іх, кніжнік, выпрабоўваючы Яго, спытаўся: "Настаўнік, якая запаведзь найбольшая ў Законе?".

Езус сказаў яму: "Любі Пана Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёй душой тваёй, і ўсім розумам тваім. Гэта найбольшая і першая запаведзь. Другая ж – падобная на яе: Любі бліжняга твайго, як самога сябе. На гэтых дзвюх запаведзях грунтуецца ўвесь Закон і Прарокі".

### Пакліканыя да любові

*Чалавек пакліканы да любові. Пан Бог стварыў нас з любові і запрасіў адгукнуцца на Яго любоў, перайміць яе і заражаць ёю свет. Вось чаму ў жыцці хрысціяніна надзвычай важныя 3 рэчы: верная любоў да Бога, здаровая любоў да сябе і ахвярная любоў да іншага чалавека.*

*Любоў да Бога датычыць нашых адносін з Ім. Любіць – гэта не толькі думаць пра Бога з пяшчотай, прыгожа аб Ім гаварыць і набожна маліцца. Любоў да Бога выяўляецца ў тым, што Ён сапраўды з'яўляецца маім Богам, адзіным Панам, што найважнейшы для мяне, і разам з Ім ладжу сваё жыццё. Тады сапраўды люблю Бога, веру ў Яго, давяраю Яму і магу даручыць Яму сябе і ўсё, чым жыву.*

*Любоў да сябе датычыць нас саміх і заключаецца ва ўменні любіць сябе так, як палюбіў нас Бог. Гаворка, аднак, не ідзе пра эгацэнтрычную, эгаістычную ці нарцысічную любоў. Любіць сябе – значыць бачыць сябе вачыма Бога і пачувацца яго любімым дзіцём.*

*Любоў да бліжняга датычыць сясцёр ды братоў і выяўляецца ў тым, як мы думаем, разважаем і дзейнічаем. Любоў да бліжняга – гэта не простае стаўленне дабрыні і прыязнасці. Любіць іншага чалавека, нават ворага, значыць быць да яго такім міласэрным, як міласэрны Бог. Гэта жаданне і пошук яго дабра, здольнасць прысвяціць яму свой час, сілы, духоўныя і матэрыяльныя даброты. Калі я сапраўды чалавек любові, то хачу для бліжняга таго, чаго хоча для яго Бог: бласлаўлення ды шчасця на зямлі і вечнага жыцця ў раі.*

*Пане Езу Хрыстэ, дапамажы мне заўсёды быць чалавекам любові, каб любіў Цябе усім сэрцам, а бліжняга, як самога сябе.*

***1 лістапада – Урачыстасць Усіх Святых***
***Мц 5, 1–12а***

Убачыўшы натоўп, Езус падняўся на гару. А калі сеў, падышлі да Яго вучні Ягоныя. І, адкрыўшы вусны свае, Ён вучыў іх, кажучы: "Шчаслівыя ўбогія духам, бо іх ёсць Валадарства Нябеснае. Шчаслівыя засмучаныя, бо яны суцешаныя будуць. Шчаслівыя лагодныя, бо яны зямлю атрымаюць у спадчыну. Шчаслівыя галодныя і прагнучыя справядлівасці, бо яны насычаныя будуць. Шчаслівыя міласэрныя, бо яны міласэрнасць спазнаюць. Шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць. Шчаслівыя міратворцы, бо яны сынамі Божымі названыя будуць. Шчаслівыя, каго пераследуюць за справядлівасць, бо іх ёсць Валадарства Нябеснае. Шчаслівыя вы, калі будуць вас зневажаць і пераследаваць, і ўсяляк зласловіць несправядліва з-за Мяне. Радуйцеся і весяліцеся, бо вялікая ўзнагарода вашая ў Нябёсах".

### Пакліканыя да святасці

*Чалавек заўжды шукае шлях, па якім ён мог бы шчасліва дасягнуць сваёй мэты, знайсці радасць і здзяйсненне жаданняў. Аднак часта навокал заўважае толькі павярхоўна прыемныя, але дрэнныя і шкодныя прапановы. Паводле Евангелля, прамая дарога і шырокая брама вядуць не ў той бок.*

*У Нагорнай пропаведзі мы атрымалі падказкі, як ісці на сустрэчу з Богам, з Хрыстом і з тымі, хто ўжо ўдзельнічае ў вечнай радасці і хвале. Трэба стаць на шлях духоўнага ўбоства, г. зн. свабоды ад жадання валодаць любой цаной. Бог павінен стаць першай мэтай жыцця. Трэба пераняць паставу кагосьці лагоднага, хто дзейнічае далікатна і кіруецца міласэрнасцю ў адносінах з людзьмі. Трэба мець голад і смагу справядлівасці, імкнуцца да яе, паказваць яе ўсім. Шукаць міру і таго, што мае найглыбейшую крыніцу ў паяднанні з Богам. Чысціня сэрца – гэта пастава жыцця, свабоднага ад усяго, у чым ёсць хаця б намёк зла.*

*Такое стаўленне можа абуджаць супраціўленне некаторых. Але будзем радавацца, калі сутыкнёмся з пераследам, бо тыя, каго сёння шануем у літургіі Касцёла, падобным чынам дасягнулі Неба.*

*Пане Езу Хрыстэ, няхай Твае падказкі дапамогуць мне дайсці да ўдзелу ў вечнай радасці і хвале. Будзь найважнейшай мэтай майго жыцця.*

АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ ПЯТРАШКУ**

*з нагоды імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, у сэрцы заўсёды госцяць спакой і дабрыня, а энергія спадарожнічае на працягу доўгіх гадоў жыцця. Жадаем, каб Анёл-ахоўнік моцна трымаў Вас за руку і дапамагаў у розных складаных жыццёвых сітуацыях. Дзякуем за добрае сэрца, мудрыя парады і тое, што Вы з намі.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Лядска*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ДЗМІТРЫЮ ЛАБКОВУ**

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, цярплівасці ў душпастырскай паслузе, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай людзі, якіх сустракаеце на святарскім шляху, адорваюць прыязнасцю і зычлівасцю, а Маці Божая атуляе плашчом сваёй любові і нястомна Вамі апекуецца.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Гродна-Дзевятоўка*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ТАДЭВУШУ КРЫШТОПІКУ**

*з нагоды імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, сілы ў душпастырскай працы, дароў Святога Духа і нястомнай апекі Маці Божай і св. Юзафа. Няхай Ваш святы заступнік Юда Тадэвуш выпрошвае ў Езуса патрэбныя ласкі, каб праз сваю паслугу Вы здабывалі для Яго як мага больш людскіх сэрцаў.*

*З малітвай вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ТАДЭВУШУ КРЫШТОПІКУ**

*з нагоды імянін ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, людской добразычлівасці і мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця. Няхай Езус Хрыстус заўсёды ва ўсім Вам дапамагае, Маці Божая нястомна чувае над Вамі, а Святы Дух штодзённа адорвае сваімі дарамі.*

*Вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Свіслачы*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВЯЧАСЛАВУ МАТУКЕВІЧУ**

*з нагоды імянін ад усяго сэрца жадаем шмат здароўя, душэўнага супакою, сілы і стойкасці ў выкананні нялёгкай паслугі, апекі Маці Божай і святога заступніка на кожны дзень жыцця, а таксама шмат Божых ласкаў.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Дудаў*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗМІТРЫЮ НЕСЦЕРУ**

*з нагоды імянін і юбілею перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Няхай спакой і радасць пасяляцца ў Вашым сэрцы, а ўсмешка ніколі не сыходзіць з твару. Жадаем шмат здароўя, сіл і стойкасці, а таксама моцнай веры, надзеі і любові.*

*Вернікі з капліцы ў Вінцуках*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗМІТРЫЮ НЕСЦЕРУ**

*з нагоды імянін і юбілею жадаем моцнага здароўя, сіл, стойкасці, нязгаснага запалу ў шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая атуліць Вас сваім плашчом, цеплынёй і дабрынёй свайго сэрца. Няхай Святы Дух асвячае дарогу, па якой мы ідзём разам з Вамі. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць і малітвы.*

*Вернікі з капліцы ў Суражы*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

**СКЛАДАЕМ СЛОВЫ ШЧЫРАГА ЖАЛЮ І СПАЧУВАННЯ ЎСІМ РОДНЫМ У СУВЯЗІ СА СМЕРЦЮ КСЯНДЗА КАНОНІКА ЮЗАФА ГАНЧЫЦА.**

Яднаемся з Вамі ў малітве, дзелячы боль і смутак. Няхай міласэрны Бог дадасць сіл, каб перанесці цяжар страты блізкай асобы, і як мага хутчэй прыме душу памерлага ў сваё Валадарства.

*Вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах*

# Пахвалёны Езус Хрыстус!

Шаноўная рэдакцыя "Слова Жыцця", артыкул, апублікаваны ў мінулым нумары пад назвай "Экалагічная альтэрнатыва ўшанаванню памяці памерлых", дае карысную заўвагу адносна выкарыстання штучных кветак. Але, разам з тым, другая яго частка выказвае неадназначнае меркаванне аб тым, што "экалагічнай катастрофай з'яўляецца і само месца пахавання".

Абзац, з якога ўзята гэтая цытата, выглядае як набор бездоказных сцвярджэнняў і выкарыстоўваецца ў якасці падставы для далейшай рэкамендацыі крэмацыі цел і пахавання праху ў калумбарыі дзеля зберажэння навакольнага асяроддзя. Пазіцыя, выказаная ў артыкуле, пярэчыць настойлівай рэкамендацыі Касцёла захоўваць традыцыйны спосаб пахавання цел у зямлю (кан. 1176, §3 ККП). Таксама блюзнерчым здаецца сцверджанне, што "для вырабу трун і крыжоў таксама ў вялікай колькасці знішчаюцца дрэвы". Абавязак хрысціянскага культу для чалавека з'яўляецца вышэйшым за абавязак клопату аб навакольным асяроддзі. Акрамя таго, ёсць меркаванне, што "велічыня" гэтай "вялікай колькасці" ў вачах аўтара артыкула значна перабольшана.

**З павагай**
**Максім Фоміч**

***У Кодэксе кананічнага права чытаем, што "Касцёл настойліва рэкамендуе захоўваць набожны звычай хавання цел памерлых. Аднак ён не забараняе крэмацыю, калі яна не была абрана па прычынах, якія супярэчаць хрысціянскаму вучэнню" (кан. 1176 §3). З прыведзенага вышэй тэксту вынікае, што Каталіцкі Касцёл не выступае супраць крэмацыі, хаця ўсё яшчэ аддае перавагу пахаванню цел. Гэта звязана з праўдай пра ўваскрасенне Езуса Хрыста, якое з'яўляецца цэнтрам хрысціянскай веры.***

***Рэдакцыя***

КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**рэлігійны часопіс**

У студыі малявання "Крылы натхнення" пры касцёле Найсвяцейшай Тройцы (св. Роха) на Залатой Горцы ў Мінску дзеці зрабілі партрэты Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча.

Выкладчыца Надзея Бука адзначыла, што заўсёды стараецца рыхтаваць заняткі на рэлігійную тэматыку. "Цяпер мяне, як і многіх беларусаў, непакоіць тое, што арцыбіскуп Тадэвуш не можа вярнуцца на Радзіму і працягваць служэнне", – патлумачыла настаўніца.

Фатаграфіі партрэтаў і іх аўтараў былі высланы Мітрапаліту ў Польшчу, дзе ён цяпер знаходзіцца. Іерарх падзякаваў дзецям і папрасіў перадаць ім сваё благаслаўленне.




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

У Мінск прыбыў Апостальскі нунцый у Рэспубліцы Беларусь арцыбіскуп Антэ Ёзіч. У міжнародным аэрапорце афіцыйнага прадстаўніка папы Францішка ў нашай краіне сустрэлі супрацоўнікі Апостальскай нунцыятуры, прадстаўнікі мясцовага Касцёла і дзяржаўных улад.

Праз некалькі дзён адбылося 79-ае пленарнае пасяджэнне ККББ з удзелам новага нунцыя. Арцыбіскуп Антэ Ёзіч перадаў біскупам словы прывітання ад Святога Айца, а таксама выказаў сваю адкрытасць да супрацоўніцтва. Між іншым, іерархі абмеркавалі праграму 2021 пастырскага года, калі прыпадае 30-годдзе аднаўлення структур Каталіцкага Касцёла ў Беларусі.




**рэлігійны часопіс**

У выдавецтве "Pro Christo" выйшла кніга вядомага польскага святара-паэта Яна Твардоўскага "Вясёлы дзень для нас настаў, або пра тое, хто такі велікодны баранак" у перакладзе на беларускую мову пісьменніцы Ірыны Жарнасек. Ілюстрацыі падрыхтаваны мастачкай Галінай Хінка-Янушкевіч.

Кніга адрасавана найперш дзецям і прысвечана Велікодным святам, іх "мудраму і радаснаму перажыванню". Проста ды шчыра, але, разам з тым, вельмі глыбока кс. Ян апавядае пра традыцыйныя сімвалы, якія з кожным годам набываюць новыя адценні. З адметным гумарам аўтар запрашае радасна ўсміхнуцца, параіўшы "святы не перажоўваць, а перажываць".




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

25-годдзе манаскіх абяцанняў адзначыла с. Тэрэсіна ад Дзіцятка Езус. Урачыстасць адбылася ў дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі (дэканат Астравец).

Св. Імшу ўзначаліў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. Гамілію прамовіў г енеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі. Павіншаваць юбілярку прыехалі манахіні з Брэста і Астраўца, а таксама сябры і вернікі з розных парафій.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП «Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4455; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.